ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 38 (2388) 22 верасня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 20 рублёў.



У тыя ж верасьнёўскія дні, калі ў Полацку прымалі Нязгасную лампаду -- сімвал Дня беларускага пісьменства і друку, у старажытным Друцку, на Віцебшчыне, прайшло свята горада. Гэта падзея паклала пачатак ажыццяўленню абвешчанай Беларускім фондам культуры доўгатэрміновай праграмы адраджэння невялікіх гарадоў і мястэчак рэспублікі. Распрацоўкай яе займаюцца вучоныя, пісьменнікі, краязнаўцы -- члены створанай пры фондзе грамадскай камісіі.

(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).

УРОК Наталлі НАВАЖЫЛАВАЙ

## "ЖАНЧЫНА — САМАЕ ЗАГАДКАВАЕ, САМАЕ ЦУДОЎНАЕ СТВАРЭННЕ ПРЫРОДЫ"

**Я ПАПРОСТУ НАЗВАЛА ЗАНЯТКІ НАТАЛЛІ НАВАЖЫЛАВАЙ ФІЗКУЛЬТУРАЙ, І МАЯ СУБЯСЕДНІЦА АДРАЗУ МЯНЕ ПАПРАВІЛА: НАША РАБОТА НЕ ФІЗКУЛЬТУРА, ГЭТА ФІТНЕС — АЗДАРАЎЛЕННЕ.**

**Клуб "Багіра" -- назва сёння ўжо дастаткова папулярная: у значнай ступені дзякуючы тэлебачанню, якое рэгулярна перадае ўрокі аэробікі, якія вядзе кіраўнік клуба Наталля Наважылава. Сапраўды, урокі Наталлі Наважылавай ніяк нельга назваць сумным словам "фізкультура", якое асабіста ў мяне асацыіруецца са школьнай фізкультурнай залай, дзе сцены заўсёды фарбаваліся якой-небудзь някідкай маслянай фарбай, з недарэчнымі гумавымі кедамі і бясформеннымі цёмна-фіялетавымі трыкатажнымі штанамі, якія колькі мы ні нацягвалі пад паяскі на таліі, заўсёды пузырыліся на каленках. А тут вам яркія фарбы, музыка, прыгожая спартыўная вопратка і ладныя прыгажуні жанчыны.**

**Чамусьці шмат год спорт у нашай краіне ўспрымаўся не столькі як адна з праяў ладу жыцця асобнага чалавека, колькі як магчымасць недзе некаму нешта даказаць -- гэта на ўзроўні палітыкаў. На больш нізкім, бытавым узроўні фізічныя заняткі стаяць у нас побач з медыцынай, бо ўзгадваем мы пра іх, калі ўжо трэба папраўляць здароўе. Вось і пачала я гутарку з Наталляй Наважылавай з таго, што ж такое для яе фізічныя заняткі, і ў прыватнасці аэробіка, якую яна выкладае: спорт, мастацтва, медыцына, а, можа, штосьці іншае!**

-- Увогуле ўсё гэта я стварала для таго, каб людзі займаліся спортам, а значыць, сваім здароўем, сабой. А потым раптам зразумела, што многія ідуць у клуб проста дзеля таго, каб пабачыцца, пагаварыць, адысці ад дамашняй руціны. Мы ведаем, што ступень "шчаслівасці" жанчын -- адзін з яскравых паказчыкаў здароўя ўсяго грамадства і краіны ў цэлым. Жанчына павінна быць задаволена, тады яна будзе добрая, будзе ўсміхацца, не будзе зрываць сваё раздражненне на блізкіх. У нас жа існуе катастрафічны дэфіцыт зносін для жанчын пасля дваццаці пяці--трыццаці гадоў. А ў нашым клубе жанчыны сустракаюцца, знаёмяцца, мы тут адзначаем дні нараджэння. Так, можна пайсці ў рэстаран, але там табе хутчэй за ўсё толькі сапсуюць настрой: нехта п'яны, нехта настойліва запрашае цябе танцаваць, а ты не хочаш...

У выніку "Багіра" -- гэта ўжо нешта накшталт клуба па інтарэсах, дзе можна пагаварыць па душах з сяброўкай, выплеснуць ці то станоўчую, ці то адмоўную энергію. Ва ўсялякім разе тут жанчыны могуць расслабіцца, знайсці пэўную і фізічную, і маральную разрадку, яны ведаюць, што тут іх ніхто не пакрыўдзіць, тут яны не сустрэнуцца з грубасцю, пошласцю. Для жанчыны, якая сюды ходзіць, гэта як аддушына.

*-- Наташа, вы, мабыць, былі за мяжой, я бачу ў вас міжнародны сертыфікат...*

( Заканчэнне на 3-й стар. ).

## БЕЛАРУСКІ ДРУК У АМЕРЫЦЫ

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ "ВЕДЫ"

Беларускі замежны друк засведчыў духоўную актыўнасць нашых суайчыннікаў з далёкага замежжа, іхнюю вернасць традыцыям беларускай дэмакратыі і нацыянальнай культуры. Ён дапамог ім стварыць свае грамадска-палітычныя структуры і навукова-асветныя інстытуты, а праз іх паўплываць на палітыку сваіх дзяржаў у дачыненні да Беларусі і беларускай нацыянальнай ідэі. Пасля другой сусветнай вайны палітычны і культурны цэнтр нашай дыяспары спакваля перамяшчаўся з Еўропы (Літва, Латвія, Чэхаславакія, Германія) у Злучаныя Штаты Амерыкі.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе там узніклі адносна ўстойлівыя перыядычныя выданні, якія дажылі да цяперашняга часу, стаўшы захавальнікамі нашых духоўных каштоўнасцяў, трыбунай змагання за суверэнную Беларусь. Ва ўмовах ідэалагічнай манаполіі КПСС аб'ектыўнае даследаванне гэтага пласта нацыянальнай культуры было немагчымым. Публікаваць дазвалялася толькі пракамуністычнае "выкрывальніцтва" змагароў за вольную і незалежную Беларусь. Адсутнасць аб'ектыўнай інфармацыі ў БССР і ейная блакіроўка на "ідэалагічных межах" спрычыніліся да таго, што на масавым узроўні склалася аднабока палітызаванае, скажонае ўяўленне пра беларускую эміграцыю.

Апошнім часам беларускі друк паступова асвойваецца нашымі даследчыкамі і публіцыстамі. Адкрыццём "беларускай Амерыкі" для нашай інтэлігенцыі стала манаграфія Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", выдадзеная пад грыфам Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку (яго ўзначальвае аўтар кнігі спадар Кіпель) і Нацыянальнага Навукова-Асветнага Цэнтра імя Ф. Скарыны (Мінск) у выдавецтве "Беларусь" (Мн., 1993, перакладчык з англійскае мовы Сяргей Шупа). У манаграфіі ёсць раздзел "Выдавецкая справа: Беларусіка ў сродках масавае інфармацыі". Даследчык лаканічна, наколькі гэта дазваляла яму ягоная тэма, паведамляе пра станаўленне эмігранцкага друку ў Заходняй Еўропе, называе такія стабільныя і ўплывовыя газеты, як "Бацькаўшчына" (ФРГ, 1947--1966), "Бараццьба" (ФРГ, 1955--1990), а ў ЗША газеты "Беларус" (выдаецца з 1950 года ў Нью-Йорку), часопісы "Беларуская Думка" (выдаецца з 1960 года ў Нью-Йорку), "Полацак" (з 1990 года ў Клiўлендзе). Па невядомай прычыне ў манаграфіі не ўпамінаецца часопіс "Веды", пра які пойдзе гаворка ў маім артыкуле.

У мяне ёсць свая здагадка, паводле якой я пачынаю свае нарысы пра беларускі друк у ЗША, -- даследаванне скарэй публіцыстычнае, чым фундаментальнае -- з "забытага" часопіса "Веды", ягонага выдаўца, рэдактара і аўтара Яна Станкевіча.

(Працяг на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ*



**У Мінску прайшлі перагаворы кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў Беларусі і Літвы Уладзіміра Сянько і Павіласа Гіліса. Бакі падпісалі Пратакол аб кансультацыях паміж Міністэрствамі замежных спраў, а таксама абмеркавалі шэраг пытанняў, звязаных з цяперашнім становішчам і перспектывамі беларуска-літоўскіх адносін.**

**У той жа дзень адбылася сустрэча Павіласа Гіліса з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром. Тэрміны правядзення беларуска-літоўскіх перагавораў на вышэйшым узроўні адкладваюцца з-за адсутнасці прагрэсу на перагаворах па дэлімітацыі мяжы.**

**НА ЗДЫМКУ:** перад пачаткам перагавораў.

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ПРАДСТАЎНІКА АПАЗІЦЫІ

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб прызначэнні міністрам працы Аляксандра Саснова. Як вядома, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноў узначальвае Камісію Вярхоўнага Савета па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва. Да таго ж займаў да гэтага аналагічную пасаду ў так званым ценявым Кабінеце Міністраў, створаным парламенцкай апазіцыяй Беларускага народнага фронта.**

*БЕЛАРУСЬ -- ЛІТВА*

## КОЖНАМУ СВАЁ

**Урад Літоўскай Рэспублікі даручыў Міністэрству шляхоў зносін узяць у сваё распараджэнне эксплуатацыю часткі чыгуначнага ўчастка Стасілас -- Беняконіс. Гэты ўчастак чыгункі праходзіць па тэрыторыі Літвы, але эксплуатавалі яго да гэтага часу чыгуначнікі Беларусі.**

**Адначасова Рэспубліцы Беларусь перадаюцца часткі чыгункі Друскінінкай -- Парэчча -- Марцынконіс, Кяна -- Гудагай і Пабрадэ -- Лынтупы -- Гадуцішкі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, але эксплуатаваліся літоўскім ведамствам. Межы прымаемых і перадаваемых участкаў чыгункі будуць удакладнены па дэлімітацыі і дэмаркацыі межаў Беларусі і Літвы.**

*"Да стварэння адзінай рублёвай зоны ў свой час Расія і Беларусь падышлі ўшчыльную. І я вельмі шкадую, што аб'яднанне грашовых сістэм не адбылося, паколькі год таму гэты крок быў магчымым і рэальным. Сёння навярстаць упушчанае будзе вельмі цяжка, бо сітуацыя ў нашых дзяржавах, я маю на ўвазе эканоміку, істотна змянілася. Узяць хоць бы той факт, што сярэдняя заработная плата ў Расіі ў дзесяткі разоў вышэйшая, чым у Беларусі. Сёння аб'яднанне азначала б, што Расія ўзвальвае на сябе цяжар дадатковых праблем суседняй дзяржавы. Мы не можам сабе гэтага дазволіць. Таму размова пра аб'яднанне грашовых сістэм можа ісці толькі тады, калі ўзровень эканамічнага развіцця Беларусі будзе аднолькавы з расійскім".*

*Віктар ЧАРНАМЫРДЗІН,*
*кіраўнік урада Расійскай Федэрацыі.*

*ПА АЦЭНКАХ БЗВ*

## СВЯТА ЎДАЛОСЯ

**Кіраўніцтва патрыятычнага руху "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў" падвяло вынікі святкавання 480-х угодкаў Аршанскай бітвы ў Мінску і па ўсёй краіне. Галоўныя ўрачыстасці свята, што адбыліся ў Мінску на плошчы Я. Коласа, сабралі каля 2--2,5 тысячы жыхароў Мінска, пераважна моладзі.**

**Прыкры інцыдэнт падчас святкавання адбыўся толькі ў Віцебску, дзе прадстаўнікі некаторых мясцовых арганізацый пры патуранні мясцовых улад правялі пікетаванне святочных мерапрыемстваў пад сцягамі імператарскага дома Раманавых і з лозунгамі, у якіх патрабавалася далучыць Беларусь да Расіі. Мясцовая арганізацыя БЗВ збіраецца звярнуцца ў пракуратуру з патрабаваннем прыцягнуць да крымінальнай адказнасці ўдзельнікаў пікетавання за антыканстытуцыйную дзейнасць.**

**Кіраўніцтва БЗВ станоўча ацэньвае вынікі святкавання і лічыць яго істотным укладам у выхаванне нацыянальнай свядомасці і абуджэнне нацыянальнай годнасці нашага народа.**

*ПАДУЖАЦЦА З ПРЭЗІДЭНТАМ*

## ГЕНЕРАЛ НЕ ЗДАЕ ПАЗІЦЫІ

**"Я лічу сябе абсалютна невінаватым", -- заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту "Звязды" былы міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі. Як мы паведамлялі ў папярэднім нумары "Голасу Радзімы", прэзідэнцкім указам генерал-палкоўнік П. Казлоўскі быў паніжаны ў званні да генерал-лейтэнанта, а матэрыялы аб выкарыстанні ім службовага становішча пры наладжванні вяселля свайго сына і нанясенні дзяржаве страт у буйным памеры, накіраваны Генеральнаму пракурору.**

**"Ніякага ўрону гэта вяселле нікому не нанесла. Я дакажу гэта ў любым судзе", -- упэўнены генерал. Ён лічыць рашэнне прэзідэнта спектаклем, які разыгрываюць яго нядобразычліўцы, каб паказаць іншым, "як можна прынізіць чалавека, паспрабаваць растаптаць яго".**

**Свае пазіцыі П. Казлоўскі мае намер бараніць з дапамогай Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда.**

*НА ЎСІМ ІМПАРТНЫМ*



**У Віцебску прыняла першых пацыентаў новая абласная стаматалагічная паліклініка. Усе кабінеты абсталяваны мадэрнізаванымі стаматалагічнымі ўстаноўкамі, набытымі ў Германіі, Славакіі, Швецыі. Для пратэзіравання зубоў паліклініка забяспечана ўсімі сучаснымі матэрыяламі. Прыемная навіна ў наш змрочны час. Вось каб яшчэ лячыць навучыліся на еўрапейскім узроўні.**

*ЗНОЎ БЕЛАРУСЫ*

## ЧОРНЫ ДЗЕНЬ

**40 гадоў назад, 14 верасня 1954 года, у раёне пасёлка Тоцкае Арэнбургскай вобласці была ўзарвана савецкая атамная бомба. Каля 44 тысяч чалавек падвергліся тады радыяцыйнаму апрамяньванню. Большая частка з іх -- воіны Беларускай ваеннай акругі, якія прымалі ўдзел у вучэннях. У жывых на сённяшні дзень засталося менш як 1 000 відавочцаў тых падзей.**

*ПРАПАНОВА БНФ*

## СТВАРЫЦЬ ПЕРАДВЫБАРНЫ БЛОК

**Беларускі народны фронт лічыць, што ў гэты гістарычны адказны час недапушчальны раскол нацыянальных дэмакратычных сіл, і прапаноўвае кіраўніцтву грамадска-палітычных арганізацый, якія падзяляюць прынцыпы незалежнасці, дэмакратыі і адраджэння нацыянальнай культуры, разгледзець магчымасці стварэння перадвыбарнага блока.**

**Гэта заяўлена ў звароце, прынятым на апошнім пасяджэнні Сойма БНФ. Мэта такой кансалідацыі -- нанесці сілам камуністычнага і імперскага рэваншу канчатковае паражэнне на ўсіх узроўнях прадстаўнічай улады. На пасяджэнні Сойма падкрэслівалася, што задача БНФ на бліжэйшыя выбары -- мець не проста моцную фракцыю, а пажадана і большасць месцаў у Вярхоўным Савеце і перамагчы на выбарах у мясцовыя Саветы народных дэпутатаў.**

**Лідэр народнага фронта Зянон Пазьняк падкрэсліў, што гэты рух застаецца ў апазіцыі да рэжыму, паколькі рэжым не змяніўся. Што тычыцца адносін БНФ з прэзідэнтам рэспублікі, то яны, паводле слоў З.Пазьняка, будуць канструктыўнымі там, дзе размова ідзе аб карупцыі і дзяржаве.**

*ДОБРЫ ЎЛОЎ*

## "ПАЛЯВАННЕ" НА ЗЛАДЗЕЯЎ

**Своеасаблівы рэкордны вынік зафіксавала ў адзін са жніўеньскіх дзён рэйдавая брыгада з ліку прадстаўнікоў Тураўскага пасялковага савета, супрацоўнікаў мясцовага аддзялення міліцыі і калгаса "Новае жыццё". Літаральна за тры гадзіны было выяўлена ажно 15 аматараў лёгкай нажывы.**

**Так, нарэшце, пацвердзіўся факт ракрадання прадуктаў харчавання ў мясцовым дзіцячым садку. Яго загадчыца С.Кірдан і рабочая Е.Кохна паквапіліся на дзіцячае малако. Былі выяўлены таксама раскрадальнікі калгаснай маёмасці.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на "цяжкую долю", беларускія калгасы набываюць не толькі трактары ды камбайны, але і ... самалёты. Вядомы ў свой час калгас "Рассвет" імя Арлоўскага Магілёўскай вобласці купіў два самалёты АН-2 і два верталёты. Крылатую тэхніку нядаўна набылі калгасы імя Горкага Пінскага і імя Суворава Пастаўскага раёнаў.

У ОРШЫ ў процівагу савецкай арганізацыі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы ўзнікла яшчэ адна -- дэмакратычная рада ветэранаў. Новая арганізацыя не прымае старую за яе імкненне аднавіць СССР, за прапаганду ідэй камунізму, адмоўнае стаўленне да нацыянальнага адраджэння Беларусі.

З ПАЧАТКУ ГОДА ва Узброеных Сілах Беларусі загінула 44 вайскоўцы. 27 з іх салдаты і сяржанты тэрміновай службы, 8 -- афіцэры і прапаршчыкі. З віны вайскоўцаў загінула 9 цывільных асоб. Галоўная прычына -- неасцярожнае абыходжанне з тэхнікай і ўзбраеннем.

ЖЫХАРЫ коласаўскай Мікалаеўшчыны выступілі супраць перайменавання вуліцы Камсамольскай у вуліцу Язэпа Лёсіка. Рашэнне аб гэтым з добрым намерам прыняў мясцовы сельсавет. Землякі ж Якуба Коласа прапануюць назваць імем Я.Лёсіка былую Казённую вуліцу (цяпер -- Школьная), дзе некалі стаяла хата Лёсікаў.

"БЕЛАРУСЬ вышэй за ўсё! А калі хто супраць -- пакінь нашу краіну!", "Беларусь -- для беларусаў", "Свабодная Беларусь -- свабодныя мы!", "Мы -- гаспадары на нашай зямлі!". Лістоўкі з такімі заклікамі з'явіліся ў Мінску. Падпісаны яны Беларускай партыяй свабоды, пакуль што юрыдычна не зарэгістраванай. БПС "пакідае за сабой права на валявыя крайнія захады ў імя свабоды і будучыні нашай Беларусі".

ПА РАШЭННЮ савета атаманаў міжрэгіянальнага таварыства "Казацкае брацтва" і да рашэння Вялікага казацкага круга дэпутат Віцебскага гарадскога Савета Вячаслаў Афанасьеў прыступіў да выканання абавязкаў вайсковага атамана Рэспублікі Беларусь.

# "ЖАНЧЫНА — САМАЕ ЗАГАДКАВАЕ, САМАЕ ЦУДОЎНАЕ СТВАРЭННЕ ПРЫРОДЫ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

-- Не, гэты сертыфікат я атрымала не за мяжой, а ў Маскве, хаця цяпер і там замежжа. Наогул сертыфікатаў у мяне, здаецца, восем, чатыры з іх міжнародныя -- я шмат дзе вучылася: па базавай аэробіцы, аэробнаму трэнінгу, зараз здала экзамен па індывідуальнаму трэнінгу -- ужо дастаткова багатых людзей, якія могуць сабе дазволіць запрасіць індывідуальнага трэнера. Вучыцца трэба, нягледзячы на тое, што я майстар спорту па гімнастыцы. Але адно толькі званне не дае права на выкладанне фітнеса, курс якога пакуль не праходзяць і ў інстытуце. Фітнес мае ўласную спецыфіку, і ў першую чаргу гэта медыцынскі аспект, бо мы лечым рухам. Ні для кога няма проціпаказанняў фізічнай актыўнасці, ёсць толькі дазіроўка -- для кожнага свая.

*-- Але вы ўсё ж такі сустракаліся з замежнымі жанчынамі і можаце параўнаць іх з нашымі савецкімі ці, дакладней, ужо постсавецкімі. Ці бачыце вы адрозненне адных ад другіх?*

-- Мне здаецца, адрозненне ёсць. Нашы жанчыны, што сапраўды дзіўна, вельмі "жывучыя", прабачце, за гэтае слова. Як бы ім ні было дрэнна, але раніцай яны зноў устаюць з нейкай верай у лепшае. Наша жанчына часта будзе прыхарошвацца невядома для каго і для чаго, хаця ёй нярэдка і надзець, і абуць, здаецца, няма чаго. А жанчыны за мяжой, яны такія эмансіпіраваныя, што для іх галоўным даўно ўжо стала зручнасць, у тым ліку і ў адзенні. Нядаўна я была ў Германіі, і мне падалося, што ўся Германія ходзіць у нейкіх тапках. А наша жанчына... Высокі абцас -- нязручна, але ж прыгожа, і яна абувае туфлі на высокім абцасе. Асабіста я гэта падтрымліваю.

*-- Ваша "Багіра" пачыналася... Калі, дарэчы?*

-- Тры гады назад. Я стварыла секцыю. Наогул аэробікай займаюся дзесяць год.

*-- Дык вось. Напачатку, наколькі я ведаю, цана за наведванне вашых заняткаў была прыкладна такая ж, як і ў іншых падобных секцыях, магчыма, крышачку большая. Сёння ж плата за наведванне клуба ўжо прынцыпова іншая і далёка не кожная жанчына можа дазволіць сабе такі дарагі адпачынак.*

-- Сапраўды, так атрымліваецца. Хаця мы запрашаем усіх.

Справа ў тым, што для сучаснага афармлення залы нам давялося ўзяць даволі значную пазыку, якую трэба своечасова вярнуць. Можна было б пакінуць усё як раней, тады і цана абанемента практычна не змянілася б. Але так працаваць мне ўжо не цікава. Па знаку задыяка я -- Леў, магчыма, таму люблю ўсё рабіць з поўнай аддачай. Я дастаткова вучылася, каб паспрабаваць арганізаваць справу не на нашым прымітыўным узроўні, а на міжнародным. А для гэтага патрэбна адпаведнае абсталяванне, трэнажоры, нарэшце, афармленне. Каштуе ж усё вельмі і вельмі нятанна. Таму і цана абанемента расце. Хаця мушу зазначыць, што ў нас ён каштуе намнога менш, чым падобныя заняткі ў Маскве ці Пецярбургу.

Дарэчы, акрамя мяне, сярод нашых трэнераў ёсць яшчэ ўладальнікі міжнародных сертыфікатаў. Зразумела, што іх паслугі павінны каштаваць адпаведна кваліфікацыі. Мы ж, у сваю чаргу, таксама плацім за падрыхтоўку выкладчыкаў -- няма нічога бясплатнага. Урэшце, у таго ж трэнера не будзе стымулу ездзіць павышаць кваліфікацыю, калі адпаведна не стане расці заработная плата.

Паглядзіце: купіць трэнажоры, прывесці ў парадак паркетную падлогу, пакрыць яе лакам -- усё грошы і грошы. Улічыце яшчэ, што наша зала месціцца ў цэнтры горада, дзе вельмі дарагая арэнда.

Але ў мяне ёсць яшчэ адна зала ў жылым масіве Зялёны Луг, дзе цэны прыкладна такія, як у іншых залах. Там працуюць больш маладыя выкладчыкі, але па маёй жа сістэме. Ну а тут паціху ствараецца клуб, і пакуль так атрымліваецца, што, каб наведваць яго, трэба мець даволі высокі даход ці прымусіць сябе адмовіцца ад чагосьці іншага на карысць нашых заняткаў.

*-- І нягледзячы на высокія цэны, недахопу ў кліентах у вас няма?*

-- Недахопу няма. Зараз толькі пачатак сезона, не ўсе яшчэ нашы кліенты вярнуліся з адпачынку, але хутка будзе поўны набор.

*-- Дарэчы, кантынгент у вас пастаянны?*

-- Так, калі ўжо нехта да нас трапляе, то гэта надоўга.

*-- А вы цікавіцеся ўзростам, прафесіямі, сацыяльным станам наведвальніц клуба?*

-- Безумоўна, гэта адзначаецца і ў членскіх картках. Узрост -- прыкладна трыццаць год, дакладней, ад дваццаці пяці да сарака. Але мы хацелі б, каб узроставы дыяпазон быў шырэйшы, і вельмі хацелася б, каб да нас прыходзілі і цяжарныя жанчыны, дарэчы, для заняткаў з імі я таксама праходзіла спецыяльную падрыхтоўку.

Далей, жанчыны нашы ў асноўным працуючыя. У першай палове дня прыходзяць кліенткі, якія не працуюць. Недзе каля паўдня, у сярэдзіне дня -- тыя, хто вырываецца на гадзінку з працы ў абедзенны перапынак, а ўвечары -- хто на працы ўдзень.

*-- Наталля, а якая ваша, скажам так, "глабальная" задума? Да чаго імкняцеся ў ідэале?*

-- Зразумела, пакуль рэалізавана толькі невялікая частка агульнай задумы, якую можна назваць так: стварэнне добрага, магчыма, элітарнага клуба. Таксама ў нашы "глабальныя" планы ўваходзіць стварэнне сістэмы філіялаў з розным профілем.

Напрыклад, зараз мы ўжо маем так званую "школу Барбі" для дзяўчынак ад сямі да чатырнаццаці год. Маё перакананне: чым раней жанчына пачне сачыць за сваёй знешнасцю, фігурай, наогул здароўем, тым больш у яе шанцаў застацца прыгожай і прывабнай нават у самым сталым узросце. У "школе ж Барбі" мы, у прыватнасці, вучым дзяўчынак культуры пластыкі -- прыгожа сядзець, хадзіць, наогул добрым манерам.

*-- Клуб "Багіра" -- прыватная ўстанова?*

-- Не, мы грамадская арганізацыя з частковым самафінансаваннем. Лічу самы галоўны асабіста мой "спонсар" -- мой муж, які "дазволіў" мне ўсім гэтым займацца. Даводзіцца шмат працаваць, у выніку "крадзецца" час у сям'і, хатніх спраў, нават той час, што належыць майму сыну. Але калі сур'ёзна, нам вельмі дапамагае воднаотлыжны клуб "Алімпія", прэзідэнтам якога і з'яўляецца мой муж. Я і сама выйшла з гэтага клуба, і зараз мы лічымся падраздзяленнем "Алімпіі". Ёсць і шэраг камерцыйных структур, якія нам вельмі дапамагалі. Карацей, жывём па прынцыпу: стукай у дзверы, нехта і адчыніць.

*-- Такім чынам, вы ў значнай ступені ўжо і дзелавая жанчына?*

-- Так, і здаецца, што ўжо нават большай часткай дзелавая жанчына. І мяне гэта не радуе. Бо як заўважыў мой муж (і я сама), дзелавая жанчына "забівае" ўва мне проста жанчыну: стала больш нервовай, жорсткай, бо пастаянна не хапае часу. Хаця я перакананая: жанчына -- самае загадкавае, самае цудоўнае стварэнне прыроды. Жанчына -- гэта чалавек будучыні, і няхай мужчыны на мяне не крыўдуюць, але жанчыны значна больш тонкія ў сваім светаўспрыманні.

*-- Але пакуль мы практычна ўсе павінны працаваць, каб зарабляць на жыццё, прычым вельмі і вельмі сціплае. У савецкія часы наогул і марыць не прыходзілася пра тое, што на адну зарплату мужа можна не то што ўтрымліваць, а нават проста пракарміць сям'ю. Жанчына была ў першую чаргу -- "будаўнік камунізму", "удзельнік сацыялістычнага спаборніцтва", "баец працоўнага фронта"...*

-- Так, і мне таксама гэта ўсё вельмі добра знаёма, бо сама ўжо маю дваццаць год працоўнага стажу. Я закончыла акадэмію фізвыхавання і працавала выкладчыкам па гімнастыцы, потым перайшла на пасаду харэографа ў воднаіыжны клуб "Алімпія", дзе працую і зараз. Займаюся з чэмпіёнамі, прызёрамі еўрапейскіх і сусветных спаборніцтваў.

У нашым клубе "Багіра" працуюць зноў-такі адны жанчыны. У выніку ўсё робім самі, нават цяжкія трэнажоры з месца на месца перацягваем. Мужчын папрасіць дапамагчы -- "за так" ніхто нічога не зробіць: патрабуюць плату, звычайна, тую, што "на разліў".

Але побач са мной выдатныя жанчыны, мае калегі: Людміла Нікалаенка, Вольга Івашкевіч, Вольга Мурашка, адзіны наш мужчына Дзмітрый Калтовіч...

Я сама сабе часта задаю пытанне, ну, чаму ж мы ўсе ці амаль усе такія нецікавыя, я маю на ўвазе жанчын. А таму, што нас працяглы час такімі рабілі сацыяльныя ўмовы, само жыццё, калі нават надзець прыгожую вячэрнюю сукенку няма куды. Работа -- дом, дом -- работа. Калі ж у госці пойдзеш -- уціснешся ў маленькую кватэрку і хутчэй за стол, есці, ніхто цябе ва ўсёй прыгажосці і не ўбачыць. У нас і дасюль няма дзе прыгожа правесці час ні жанчынам, ні мужчынам. Наш уклад жыцця пазбаўлены эстэтыкі. Вось гэта мяне і засмучае, над гэтай праблемай я імкнулася працаваць па меры маіх магчымасцей.

*-- Наташа, вы і прыгожая жанчына, і спартсменка, і выкладчык, і "прараб". А палітыкай вы цікавіцеся?*

-- Нават вельмі. Таму што ад таго, якая ў нас будзе праводзіцца палітыка, так мы будзем і жыць. Я хачу жыць прыгожа, так, каб у мяне і ў іншых жанчын было менш праблем. Я гляджу на стомленыя, абыякавыя жаночыя твары на вуліцы, у метро і разумею: ну якое яшчэ ім каханне патрэбна? Ды ёй хутчэй бы дацягнуць свае цяжкія сумкі дадому, бо на машынах жанчыны практычна не ездзяць. А дома ўздыхнуць ды ісці на кухню, дзе з бытавых прылад -- газавая пліта, краны з халоднай і гарачай вадой, ды і то пакуль не ў кожнай кватэры. Нашы жанчыны ў сорак гадоў старымі выглядаюць, бо яны ўжо выматаны да рэшты. Таму я з вялікай надзеяй гляджу на мужчыну Лукашэнку. Ён мне падабаецца, адзінае, я прычоску яму змяніла б, а так яго знешнасць адпавядае, як мне здаецца, вобразу мужчыны-спартанца, мужчыны-кіраўніка, які можа падабацца жанчынам. Усё пытанне ў тым, ці здолее ён прыўнесці эстэтыку ў наша жыццё, ці здолее дапамагчы жанчынам, а тым самым і сваім братам-мужчынам. Бо ад таго, які настрой у жонкі, у значнай ступені залежыць і псіхалагічны камфорт мужа. Таму ад гэтага мужчыны -- прэзідэнта Лукашэнкі шмат што залежыць. Усё ў яго руках, і я гляджу на яго з надзеяй.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК**

## ЛЕПШАЙ ЗЯМЛІ І НЕ ТРЭБА



**Няма, бадай, у Гнесічах чалавека, які б не сказаў, што яго вёска -- самая прыгожая ў акрузе. І з гэтым цяжка не пагадзіцца. Бо стаіць яна на беразе Нёмана, уся патанае ў зеляніне садоў і агародаў. Там-сям дамы вяскоўцаў падступаюць да самай вады. Раздолле тут і мясцовай дзятве, і дзецям, што прыязджаюць з вялікіх гарадоў на ўсё лета пагасціць у бабуль і дзядуль, папіць сырадою, уволю пабегаць па траве-мураве, накупацца ў Нёмане, парыбачыць.**

**Ды Гнесічы, як і сотні іншых вёсак, хворыя на Чарнобыль: павышаная радыяцыя. Але ж людзі там жывуць, працуюць, потам і мазалём здабываюць хлеб свой надзённы. Жывуць, не зважаючы на пагаршэнне здароўя, спадзеючыся на Бога, што можа некалі міне тая бяда.**

**НА ЗДЫМКАХ: прынёманская вёска Гнесічы, што ў Навагрудскім раёне; больш за 80 гадоў пражыла ў родных Гнесічах Марыя СЕВАСЦЬЯНОВІЧ, і лепшай зямлі ёй не трэба.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**



З НАГОДЫ ПРЭЗЕНТАЦЫІ КНІГІ К. МЕРЛЯКА

# НА "ГОЛАСЕ РАДЗІМЫ" СВЕТ КЛІНАМ СЫШОЎСЯ

На прэзентацыю кнігі Канстанціна Мерляка "Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі" я ісці не збіралася хаця б таму, што прадстаўнікоў газеты "Голас Радзімы" туды проста не запрасілі. Але ж так здарылася, што без ведама самога аўтара і клуба "Спадчына", што наладзіў гэтую імпрэзу, мне такі давялося туды трапіць.

Да абвешчанага часу ў музей Янкі Купалы пачалі сходзіцца людзі, прыехаў і сам спадар Кастусь Мерляк. Прэзентацыю кнігі, выдадзенай яшчэ ў 1992 годзе ў Нью-Йорку, адкрыў старшыня "Спадчыны" спадар Белы. Адзначыўшы вялікі ўклад аўтара ў гісторыю беларускай эміграцыі ў Амерыцы, вядучы перадаў яму слова. Спадар Мерляк падрабязна азнаёміў прысутных са сваім жыццём за межамі радзімы, перайшоў да асабістых уражанняў аб жыцці тут, на радзіме, у яго адсутнасць. Матэрыял на гэтую тэму ў яго быў сабраны немалы, і я адзначыла для сябе: відаць, усе гэтыя гады ён з вялікай увагай сачыў за публікацыямі ў беларускай прэсе. Дайшла чарга і да нашага выдання. З вялікай прыемнасцю -- чытаюць, чытаюць нас землякі, што жывуць у далёкім замежжы! --пачула я назву артыкула, прысвечанага святкаванню 30-годдзя таварыства "Радзіма". Аднак здзівіў каментарый, які паследаваў за словамі Адама Мальдзіса, што паслужылі загалоўкам: "Радзіме" не будзе сорамна перад судом гісторыі". Аказваецца, сказанае вядомым навукоўцам, спадар Мерляк успрыняў як "непрыкрыты цынізм". Не бяруся ацэньваць у гэтых нататках дзейнасць старэйшага на Беларусі таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой, але, здаецца, за тры дзесяцігоддзі нямала было зроблена ім для таго, каб захаваць тую неабходную абодвум бакам сувязь паміж беларусамі, што апынуліся за мяжой, і іх бацькаўшчынай. Асабліва, калі ўлічыць, які быў час. Ды і ўвогуле, газету нашу ў гэты вечар паміналі неаднойчы, прычым толькі ў адмоўным кантэксце. Складвалася ўражанне, што менавіта "Голас Радзімы" зараз павінен несці адказнасць за ўсё, што друкавалася на старонках нашай прэсы ў тыя гады, калі яна знаходзілася пад ідэалагічным прэсам. Успомнілася ў гэты момант многае, напрыклад, тое, як два гады таму спадар Мерляк пасля доўгай адсутнасці на Беларусі сам прыйшоў у нашу рэдакцыю і прапанаваў забыцца пра мінулае, якім бы яно ні было, і жыць далей у згодзе і міры. З нашага боку прапанова сустрэла поўнае разуменне, але, відаць, аўтар прэзентуемай кнігі за мінулы час чамусьці змяніў сваю пазіцыю. Успомнілася і шчырае выступленне на юбілеі таварыства "Радзіма" былога міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь спадара Краўчанкі. Многа цёплых слоў было тады сказана ім у адрас "Радзімы". Можна толькі здагадвацца, чаму ён, прысутнічаючы тут, на прэзентацыі, так хутка змяніў свае погляды і не знайшоў слоў, каб абараніць арганізацыю, якую ўсяго некалькі месяцаў таму ад усёй душы, з вялікім букетам кветак, віншаваў з юбілеем і памінаў самымі добрымі словамі. А шчырыя пацалункі, якімі спадар Мерляк і спадар Краўчанка абмяняліся на развітанне, увогуле нагадвалі сардэчныя прывітанні кіраўнікоў высокага рангу даперабудовачных часоў. Потым на невялікую сцэну выйшаў павіншаваць віноўніка падзеі доктар гісторыі Леанід Лыч. Ён даў падрабязны аналіз прэзентуемай кнігі, знайшоўшы ў ёй галоўны і адзіны, на яго погляд, недахоп: добра, але ж мала. Што ж, будзем разам з ім спадзявацца, што праз некаторы час мы атрымаем другую, больш падрабязную версію кнігі аб дзейнасці аўтара на ніве беларускага адраджэння. Успомніў з мяккім папрокам нашу газету і ён: некалі на старонках "Голасу Радзімы" друкаваліся "выкрывальныя" матэрыялы аб дзейнасці Кастуся Мерляка ў гады вайны.

Наступны прамоўца -- Яўген Гучок -- здзівіў крайняй усхваляванасцю свайго выступлення: "Не верце, дарагі спадар Мерляк, калі беларусы, якія прыедуць да вас у Амерыку, будуць расказваць вам пра свае высокія мэты, бо едуць яны туды за лахманамі ды яшчэ... шпіёніць!" -- сказаў ён. Не ведаю, ці многа нашпіёнілі мае суайчыннікі ў далёкай Амерыцы, але плёну ад іх "разведвальнай" дзейнасці на радзіме пакуль не відаць.

Дарэчы, цікава, каго меў на ўвазе спадар Гучок? Бо зараз за мяжу едуць не толькі былыя партыйныя дзеячы і ўрадавыя чыноўнікі. У далёкія краіны, да беларусаў, наведваюцца і члены БНФ, і прадстаўнікі "Бацькаўшчыны", і, дарэчы, той жа самай "Спадчыны". Ну што ж, дзякуй спадару Гучку за тое, што ён адкрыў вочы нашай эміграцыі на сапраўднае аблічча гасцей з радзімы. І ўсё ж такі спадзяюся, што не ўсе беларусы едуць за мяжу з такімі нізкімі мэтамі. Дасталася чамусьці і Янку Запрудніку, які прапанаваў мінскаму выдавецтву сваю кнігу. Аказваецца, "выгінаўся ён перад мясцовым выдавецкім начальствам так, што як толькі пазваночнік вытрымаў". А я думала, што хоць там, сярод нашых суайчыннікаў за мяжой, існуе згода і мір. Шкада, што памылілся... Міраж развеяўся. Увогуле, цікавая атрымалася прэзентацыя. Пад канец было прапанавана пакаяцца ўсім, хто некалі абразіў нядобрым словам змагара за адзінства беларускага народа спадара Мерляка. Ну і вядома ж, у першую чаргу "Голасу Радзімы".

Але мне зараз не дае спакою думка: навошта ўвогуле была ўся гэтая прэзентацыя ў Мінску ў 1994 годзе кнігі, выдадзенай у Нью-Йорку два гады таму? Можа, для таго, каб нашы "тутэйшыя" ўсвядомілі, што яны нешта пераблыталі, і ні Абрамчык, ні Жук - Грышкевіч, ні цяперашні старшыня рады БНР Язэп Сажыч, а адзін Кастусь Мерляк быў сапраўдным лідэрам беларускай дыяспары ў Амерыцы, ды там яго чамусьці не ацанілі.

Да канца прэзентацыі я не вытрывала, бо атмасфера гэтай падзеі пад канец больш нагадвала наэлектрызаваны мітынг, чым спакойнае прадстаўленне новай кнігі. Што ж тычыцца прапановы пакаяцца ўсім, хто абразіў паважанага аўтара, дык мне хочацца прыгадаць словы, якія сказаў спадар Мерляк, паціскаючы руку рэдактару "Голасу Радзімы" і ўручаючы яму два гады назад сваю кнігу: "Мы ведаем, што вы нападалі на нас не па сваёй добрай волі -- вымушаны былі гэта рабіць. Мы таксама шмат непрыемнага вам рабілі... Такі быў час. Давайце зараз забудземся пра гэта і будзем разам працаваць дзеля Беларусі".

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ПАСЛЯ І-га З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ ПРЫБАЛТЫЙСКІХ КРАІН

Нядаўна ў Вільні адбыўся першы з'езд беларусаў прыбалтыйскіх краін. На гэтым з'ездзе абгаворваліся справы супрацоўніцтва беларусаў гэтых краін паміж сабою, а таксама ўзаемаадносін з кіраўніцтвам дзяржаваў, у межах якіх мы апынуліся.

Заключным актам з'езда была прынятая дэкларацыя і зварот да прэзідэнта Беларусі -- сп. Лукашэнкі. На галасаванне былі пастаўлены два варыянты звароту да прэзідэнта. Скарочаны варыянт быў прыняты. Аднак некаторыя сябры рэдакцыйнай камісіі і дэлегатаы з'езда перакананы, што прэзідэнт павінен ведаць, што пра яго думаюць і чаго ад яго чакаюць усе грамадзяне -- як Беларусі, так і замежжа.

Дзеля гэтага просяць падаць да ведама таксама першы, больш шырокі варыянт, які парушае канкрэтныя праблемы і прапановы ў галіне важных для нашай будучыні рашэнняў.

Ад імя групы дэлегатаў

**Аляксей АНІШЧЫК.**

*г.Вільня.*

# АДХІЛЕНЫ ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вільня была пасля Наваградка сталіцаю народаў Вялікага Княства Літоўскага тады, калі Беларусь называлася Літвою. Перад апошняю вайною на Віленшчыне жыло (паводле дзяржаўнага перапісу) 56 працэнтаў беларусаў. У выніку націску чужых, імперыялістычных сіл частка гэтых беларусаў прыняла назву "тутэйшыя", рэшта -- амаль поўнасцю дэнацыяналізавана. Паводле сучаснага (недакладнага) спісу, колькасць беларусаў Вільні і Віленшчыны азначана лічбай 60 тысяч. У даны момант, як і на ўсіх этнічна беларускіх тэрыторыях, уваскрасае адраджэнскі рух. Паколькі метраполіяй усіх беларусаў свету з'яўляецца Беларусь, мы звяртаемся да Вас, як законнага, выбранага большасцю насельніцтва Беларусі Прэзідэнта, з наступнымі просьбамі і заўвагамі.

Дзяржава, прызнаная сёння амаль усімі народамі свету, ужо тры гады з'яўляецца суверэннай. Аднак на яе тэрыторыі яшчэ цяпер знаходзяцца чужаземныя вайсковыя сілы. У арміі пануе чужая мова. Не раз наглядаецца дыскрымінацыя беларускіх вайскоўцаў-патрыётаў, якія імкнуцца ўмацаваць нацыянальныя абаронныя сілы. Некаторыя суседзі эканамічным тэрорам дабіваюцца ўцягнуць Беларусь у небяспечныя для яе ваенныя саюзы. Нафтай і газам падначаленых ім народаў набываюць "сяброўства", якое простым шляхам вядзе да ператварэння Беларусі ў свайго васала. Наглай і беспардоннай агітацыяй імкнуцца збэсціць і знішчыць нацыянальную мову, школу, культуру Беларусі. Для дасягнення свае мэты робяць усё, каб аканчальна разваліць эканоміку, каб народ збунтаваўся і паклікаў панаваць над сабою "варагаў"...

Большасць народу даручыла Вам рэалізаваць свае самыя дарагія ідэі: умацаваць палітычную незалежнасць шляхам утварэння ўласнай беларускай арміі, здольнай абараніць край ад любых інтэрвентаў; умацаваць эканамічную незалежнасць, выкарыстоўваючы перадусім уласныя рэзервы энергетыкі (вадзяныя і ветравыя электрастанцыі, запасы торфу і бурага вугля, лясных рэзерваў; актывізуючы пошукі нафты і інш.). Абяспечыць школы і навуковыя ўстановы беларускай літаратурай, неабходнай для нацыянальнага адраджэння і развіцця роднай культуры. Дзеля гэтага -- неадкладна перадаць друкарскі камбінат пад кантроль грамадскіх беларускіх арганізацый, таксама як "Союзпечать" -- дзе патрабуецца неадкладная змена кіраўніцтва.

Важнейшай задачаю, узятаю на сябе Прэзідэнтам, з'яўляецца ліквідацыя мафіяў, бандытызму і карупцыі (хабарніцтва). Іменна бандытызм, рэкет і карупцыя дапамагаюць партакратыі выконваць сістэматычную гаспадарчую і культурную дыверсію (каб у мутнай вадзе здабываць уладу).

Вырашэннем праблемы карупцыі і бандытызму адначасна вырашыць праблему развалу гаспадаркі Беларусі. Стабілізуецца прамысловая і сельская вытворчасць. А ўвядзенне **ўласнай валюты** аканчальна выведзе з тупіка гаспадарку Беларусі.

Добрыя вынікі магло б даць стварэнне дарадча -- эканамічнага органа, створанага з прадстаўнікоў (спецыялістаў) беларускай дыяспары замежжа. Гэты орган (рада або камітэт) склікаўся б, напрыклад, раз у квартал або ў выпадку **патрэбы** і выпрацоўваў бы канкрэтныя прапановы для вырашэння канкрэтных праблем. Землякі-патрыёты, якія дасканала ведаюць рынкавую сістэму замежжа, маглі б (малым коштам) дапамагчы Прэзідэнту ў правідловым вырашэнні многіх праблемаў.

Адраджэнне сялянства Беларусі беспярэчна з'яўляецца краевугольным каменем у будаўніцтве незалежнай дзяржаўнасці. Бо абяздолены, ашуканы і галодны народ здольны думаць толькі пра **хлеб і спосабы выжыць.** Шчасця нацыі не прынясуць ні ваенныя саюзы з імперыялістамі, ні выпрошванне дармовай энергетыкі. Дарам яе ніхто не дасць. Прыйдзецца плаціць рабствам, паступовай утратай незалежнасці. Не шмат на свеце ўрадаў, якія з лёгкім сэрцам прадаюць свой народ у рабства чужакам. Мы ўпэўнены, што сённяшні беларускі ўрад будзе стаяць на стражы незалежнасці, здабытай кроўю многіх пакаленняў. Успомнім эпоху Вітаўта Вялікага, князя Астрожскага, Кастуся Каліноўскага, мільёны загубленых ахвяр у лагерах і ў часе вайны. Цана за незалежнасць Беларусі аплачана мільёнамі патрыётаў, якія аддалі сваё жыццё за волю і шчасце роднага народу.

Сваё шчасце беларусы збудуюць самі, трэба толькі развязаць ім рукі, вызваліць ад хамута партакратыі, якая сёння камандуе сялом і горадам. Мы верым, што Вы, паважаны сп. Прэзідэнт, будзеце ажыццяўляць надзеі і спадзяванні нацыі, узмацняць адзінства і абаронныя сілы народу, берагчы як святыню незалежнасць дзяржавы. Беларускі народ -- адзін з найздольнейшых народаў свету і можа сам кіраваць сваім лёсам. Без ласкі імперыялістаў.

Верым, што Вы з агідай адкінеце шлях іудаў і прадажных палітыкаў, якія імкнуліся гандляваць целам Беларусі дэталічна і оптам. Мы ўпэўнены, што Вы, як адданы сваёй Бацькаўшчыне сын, пойдзеце нялёгкім, але светазарным шляхам караля Міндоўга, Вітаўта Вялікага, Скарыны, Льва Сапегі, Мялешкі, Цёткі, Галадзеда, Тарашкевіча, праф. Ткачова. На гэтым векапомным шляху Вы сустрэнеце нас, загартаваных у барацьбе за волю свайго краю, якіх жорсткі лёс пасяліў за мяжой, але не здолеў вырваць з нашай душы кахання і адданасці справе вызвалення і росквіту роднага народу. І мы дапаможам Вам стаць Прэзідэнтам-вызваліцелем, падобным Вашынгтону і Гарыбальдзі...

У гэтым вялікім чыне Вас падтрымае ўвесь беларускі народ, дзе б ён ні знаходзіўся -- у метраполіі ці на эміграцыі. Няхай усім нам дапаможа ў гэтым Усемагутны Бог!..

*У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"*

# 10 МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ – АД ЗАМЕЖНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Блізка да сэрца ўспрынялі чарнобыльскую трагедыю нашы суайчыннікі з далёкага замежжа, многія з іх адклікнуліся на зварот да іх, які ў ліпені 1989 года быў прыняты грамадскімі арганізацыямі рэспублікі. Сярод іх было і таварыства "Радзіма". На працягу мінулых пяці гадоў дабрачынная дапамога ад арганізацый суайчыннікаў Германіі, Бельгіі, Галандыі, ЗША, Канады, аргенціны, Алжыра, Ганы і іншых краін рэгулярна паступала і паступае ў адрас таварыства і перадаецца ў лячэбныя ўстановы рэспублікі. Сума гэтай дапамогі ўжо складае звыш 10 мільёнаў долараў.

Вось і зусім нядаўна, у жніўні, ад суайчыннікаў з Германіі, ЗША і Канады таварыства "Радзіма" зноў атрымала партыі лекаў і грашовую дапамогу для лячэння пацярпеўшых ад радыяцыі. Чарговы раз прывёз медыкаменты наш зямляк Міхаіл Мельнік, які жыве ў Германіі. Дарэчы, ён адным з першых яшчэ ў кастрычніку 1989 года даставіў у рэспубліку буйную партыю аднаразовых шпрыцаў для пацярпеўшых раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей. З таго часу М. Мельнік рэгулярна па тры-чатыры разы на год прывозіць і перадае праз таварыства "Радзіма" гуманітарную дапамогу розным медыцынскім установам. Усяго за гэты час ён прывёз на Беларусь лекаў, вітамінаў і медыцынскага абсталявання на суму каля 15 мільёнаў нямецкіх марак.

Таксама з 1989 года паступае дапамога ахвярам Чарнобыля ад грамадскай асацыяцыі "Гумбальт парк" і Руска-амерыканскага жаночага таварыства ў горадзе Чыкага (ЗША). Прадстаўніца гэтых арганізацый Джун Мека ў ліпені 1993 года была сярод дэлегатаў Першага з'езда беларусаў свету ў Мінску. Тады ж яна сустрэлася з кіраўніцтвам Беларускага дзіцячага фонду і дзіцячага анкалагічнага аддзялення ў абласной бальніцы ў Бараўлянах. Кожнаму з іх яна ўручыла чэкі на суму 5 тысяч долараў ЗША для хворых дзяцей. А з галоўным урачом дзіцячага анкалагічнага аддзялення Р. Ісмаіл-Задэ Джун Мека дамовілася аб пастаўцы ў далейшым канкрэтных лекаў. Пасля гэтага ад суайчыннікаў з Чыкага ўжо пяты раз прысылаюцца неабходныя гэтай лячэбнай установе медыкаменты і абсталяванне -- усяго на суму каля 60 тысяч долараў ЗША.

Суайчыннікі з Канады, члены Федэрацыі рускіх канадцаў (ФРК) пажадалі аказваць дабрачынную дапамогу клініцы радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, з кіраўніцтвам якой наладзілі асабістыя кантакты і ўдакладнілі яе патрэбы. За мінулы час у гэту клініку, дзе лечацца дзеці з чарнобыльскай зоны, ад членаў ФРК паступіла рознае медыцынскае абсталяванне, камп'ютэры і грашовая дапамога на суму 120 тысяч канадскіх долараў. У апошні прыезд у жніўні гэтага года прадстаўнік аддзела ФРК у горадзе Ванкуверы, беларус з Брэстчыны Іван Няхода ўручыў кіраўніцтву клінікі ў Аксакаўшчыне чэк на суму 9 тысяч канадскіх долараў. Як расказаў І. Няхода, гэтыя грошы былі сабраны на дабрачынных вечарынах аддзела ФРК, у тым ліку 2 500 долараў -- ахвяраванні, атрыманыя падчас святкавання "залатога" вяселля Івана і Магдалены Тарвік.

Мы выказваем шчырае дзякуй вам, дарагія нашы суродзічы, за вашы ахвяраванні, за тое, што бяду нашага народа вы ўспрымаеце, як сваю асабістую.

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма".**

161

У Расіі ж толькі асобныя сяляне пачыналі мяняць лапці на боты, лучыну на газавую лямпу, саламяныя стрэхі на чарапічныя дахі. Пашыралася выкарыстанне плугоў і жалезных барон. Заможныя гаспадары набывалі веялкі, малацілкі і вельмі рэдка жняяркі.

**ВЯСКОВЫЯ РУПЛІЎЦЫ.** Прадпрымальных вяскоўцаў ведалі ва ўсёй акрузе. З імі раіліся. Пра такіх пісалі газеты. Так, Восіп Мароз валодаў у Лепельскім павеце маёнткам Фатынь. 10 дзесяцін са 100 ён адвёў пад сад. Дрэў было можа каля 3 тысяч, а сартоў -- больш за сотню. Тут жа, у садзе, гаспадар заклаў гадавальнік, парнікі і пчальнік з 40 вулляў. Саджанцы ў Мароза куплялі не толькі сяляне з усяго павета, але і памешчыкі, гараджане. У аранжарэях вырошчваліся пальмы і мірты, у парніках -- дыні, кавуны і гіганцкія гарбузы. Сялянскі руплівец займаўся яшчэ зерневай гаспадаркай, агародніцтвам і травасеяннем. Па расаду капусты да яго прыязджалі за 30--40 вёрст. У Навагрудскім павеце праславіўся селянін Самусь. У 1909 годзе ён пабудаваў недалёка ад мястэчка Гарадніца цагельны завод, потым набыў у Германіі гофманаўскую печ за 10 тысяч рублёў і прадаваў па паўмільёна цаглін у год.

**ПАВЫШЭННЕ СЯЛЯНСКАЙ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦІ Ў ВЫНІКАХ ПРАЦЫ.** Сваімі поспехамі ў гаспадаранні вясковыя прадпрымальнікі былі абавязаны хутчэй уласным намаганням ды госпаду Богу, што падараваў багатыя ўраджаі ў 1909, 1910, 1912, 1913 гадах, а не выключна Сталыпіну. Вельмі важна было і тое, што з 1907 года вяскоўцы перасталі плаціць выкупныя плацяжы.

162

З'явілася магчымасць адкладваць грошы на набыццё зямлі і машын. Закладваўся кааператыўны рух. Сяляне аб'ядноўвалі свае сродкі для ўзаемадапамогі ў крэдыце, куплі патрэбных рэчаў, збыце гатовай прадукцыі.

Ні разбурэнне абшчыны, ні хутарызацыя і перасяленні не мелі такога значэння для беларускай вёскі, як канчатковае замацаванне ўрадам Сталыпіна за сялянамі права прыватнай уласнасці на зямлю. Поўны гаспадар распачынаў больш інтэнсіўную працу, ведаючы, што зробленае ім застанецца дзецям. Інтарэс да павелічэння землеўладання яшчэ больш узрос. Прыватная ўласнасць давала права пазбавіцца ад зямлі, калі яна не пракормлівала ці не цікавіла, і шукаць новы занятак. Ні дзяржава, ні абшчына зараз не маглі ўжо гэта забараніць.

**САЦЫЯЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ.** Збяднелыя даволі спакойна глядзелі на аднавяскоўцаў, што абагаціліся сумленна. Часцей за ўсё сяляне счэпліваліся паміж сабой у сварцы з-за земляў агульнага карыстання, якія стараліся прыхапіць хутаране. Традыцыйнай сялянскай помстай былі падпалы. Цікава, што і сялянскіх выступленняў супраць памешчыкаў амаль не назіралася. І не толькі з-за ўрадавых рэпрэсій. Рэформа і эканамічны ўздым у краіне спакушалі заняцца ўладкаваннем новага жыцця. Ілюзіі ўзбагаціцца за кошт буйных землеўладальнікаў прападалі. Але паўперызаванае сялянства, якое яшчэ неяк уладкоўвалася пры спрыяльным становішчы краіны, пагражала новым сацыяльным выбухам пры наступленні эканамічных цяжкасцей.

163

**АД АГРАРНАГА ТЭРОРУ ДА ЭКАНАМІЧНАЙ КАНКУРЭНЦЫІ.** Некаторая палёгка сялянам дазволіла ім упершыню за больш чым стогадовае панаванне Расіі весці больш-менш паспяховую канкурэнтную барацьбу з мясцовымі панамі на сельскагаспадарчым рынку. Напалоханыя рэвалюцыяй, мясцовыя латыфундысты імкнуліся трохі пазбавіцца ад лішкаў зямлі, тым больш, што арэндныя цэны на яе памяншаліся, а пакупныя ўзрасталі. Сяляне аддавалі перавагу землям, набытым ва ўласнасць, а не арэндзе. У параўнанні з другой паловай XIX стагоддзя колькасць паступаючай у продаж панскай зямлі павялічылася. Памешчыцкае землеўладанне трохі скарацілася, а сялянскае побач з купецкім і мяшчанскім узрасло.

Плата сельскагаспадарчым рабочым утрымлівалася пасля рэвалюцыі на высокім узроўні. Вяскоўцы не згаджаліся працаваць на паноў задарма ды яшчэ са сваім інвентаром, калі адкрывалася мажлівасць уладкавацца на расійскіх фабрыках, адправіцца ў эміграцыю ці ў Сібір. Гэта прымушала панскія гаспадаркі станавіцца на шлях інтэнсіфікацыі, каб павялічыць прыбыткі і пакрыць імі ўзросшыя выдаткі на арганізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці. Набываліся машыны, уводзілася шматполле, пашыралася спецыялізацыя на жывёлагадоўлі. Але і тут сяляне стараліся не ўступаць панам.

У той час як некаторыя паны прапівалі ды праядалі свае капіталы, сяляне старанна працавалі, назапашвалі грошы і вопыт рацыянальнага гаспадарання на зямлі. Па ўраджайнасці жыта вя-

164

скоўцы выходзілі на ўзровень панскіх палёў. Толькі зерневая гаспадарка не забяспечвала Беларусь хлебам. Ён увозіўся з расійскіх і ўкраінскіх губерняў. Услед за памешчыкамі сяляне пашыралі пасевы бульбы, якая стала сапраўды тыповай беларускай культурай і давала амаль 1/3 збору ўсёй Расіі. Бульба замяняла хлеб, якога недаставала, яе продаж на мясцовыя вінакурні і крухмальныя заводы даваў надзейны прыбытак, акрамя таго, яна служыла добрым кормам для свіней. На іх адкорме і продажы сяляне нядрэнна зараблялі і апярэджвалі ў гэтай справе паноў, не кажучы ўжо пра яўрэйскіх гандляроў, якія ў адпаведнасці з рэлігійным законам да прадуктаў з свініны і не датыкаліся. Месцамі вяскоўцы аб'ядноўваліся ў малочныя арцелі. Жывёлагадоўля станавілася паўнапраўнай галіной іх гаспадаркі. Для сялян Віцебшчыны добрай падмогай заставалася вырошчванне льну і канопляў, якія яшчэ карысталіся попытам у замежжы.

**ФЕРМЕРСКАЯ ГАСПАДАРКА ПЕРАМАГАЕ ЛАТЫФУНДЫСЦКУЮ.** Беларусь знаходзілася як бы на вялікай дарозе, па якой правозілася шмат таннага хлеба. І сэнс беларускай гаспадаркі заключаўся ў тым, каб вытворчасцю больш інтэнсіўных культур і прадуктаў жывёлагадоўлі не толькі запоўніць недахоп хлеба, але і атрымаць нейкія грашовыя лішкі. Не ўсе паны з гэтай задачай спраўляліся.

Агульная тэндэнцыя была такой, што сялянская гаспадарка больш паспяхова набывала рыначны характар і ўзмацнялася за кошт панскай. Па даных сельскагаспадарчага перапісу 1916

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

165

года (без Гродзеншчыны), беларускія сяляне заворвалі больш 90 працэнтаў усёй пасяўной плошчы, давалі прыкладна такую ж долю збораў хлеба і бульбы. З 1900-га па 1916 год працэнт сялянскай жывёлы ў агульным статку ўзрос: коней -- з 80 да 95, кароў -- з 73 да 94, авечак -- з 81 да 98, свіней -- з 81 да 97 працэнтаў. У пачатку XX стагоддзя Беларусь стала экспарцёрам мяса, масла, сыру, яек, яблыкаў. Яе дабрабыт трымаўся на працы сялянства. Узросшая канкурэнтаздольнасць сялянскай гаспадаркі звужала сферу дзейнасці паўпрыгонніцкіх маёнткаў, аслабляла эканамічную ўладу спаланізаваных паноў і абяцала добры падмурак для нацыянальнага адраджэння.

Але як у сярэднявеччы мы згубілі для сябе зямельную арыстакратыю, што стала служыць польскай ідэі, так і ў пачатку гэтага стагоддзя мы пачалі губляць для сябе беларускае фермерства, якое дзялілася ці то на рускіх, ці то на польскіх патрыётаў. Беларускія лідэры, аднак, яшчэ захоўвалі шанц прадухіліць распаўзанне нацыянальнага падмурка.

## 21.4. Індустрыялізацыя

**ПРАМЫСЛОВЫ ЎЗДЫМ.** У 1909--1913 гадах Расія перажывала прамысловы ўздым, які ахапіў і Беларусь. Аграрная рэформа паглыбіла мясцовы рынак. Збяднелыя інтэнсіўней набывалі тавары ўжытку, а фермеры, акрамя таго, -- і сродкі вытворчасці. Рост цэн на сельскагаспадарчыя прадукты павялічыў пакупную здольнасць вёскі. Усё гэта прывяло да таго, што

166

капіталы купцоў Беларусі, што абслугоўвалі эканоміку ўсёй імперыі, патроху вярталіся дахаты і ўліваліся ў прамысловасць. Для адкрыцця буйных прамысловых прадпрыемстваў звычайна ствараліся акцыянерныя таварыствы пры ўдзеле замежных інвестараў. У 1908--1913 гадах сярэднегадавы прырост прамысловай вытворчасці беларускага краю складаў каля 14 працэнтаў. Гэта вельмі высокі паказчык, вышэйшы, чым па Расіі ў цэлым.

**ХАРЧОВАЯ ІНДУСТРЫЯ.** Вядучае месца на Беларусі па-ранейшаму займала харчовая прамысловасць. Побач з традыцыйным вінакурэннем пашыралася выпрацоўка крухмалу, патакі, дрожджэй. Сярод такога роду прадпрыемстваў буйнейшым быў дрожджававінакурны завод братоў Ракаўшчыкаў у Мінску, дзе ў 1913 годзе працавала каля 150 чалавек. Нязменным попытам карысталася прадукцыя піваварных заводаў "Багемія" (Мінск), "Баварыя" (Віцебск), віленскіх і магілёўскіх піваварань. Вядучым прадпрыемствам у сваёй галіне была тытунёвая фабрыка акцыянернага таварыства Шарашэўскага ў Гародні. Склады яе прадукцыі знаходзіліся ў гарадах Польшчы і ў Сімферопалі.

**ДРЭВААПРАЦОЎКА.** Індустрыялізацыя Беларусі прывяла да скарачэння вывазу за яе межы сыравіны, якая стала апрацоўвацца на месцы. У першую чаргу гэта тычылася лесу, асноўнага багацця нашага краю. Як грыбы раслі тут лесапільныя і фанерныя заводы, прадпрыемствы па вырабу драўляных шавецкіх шпілек і капылоў. Уладальнік лесапільна-фанернага завода ў

167

мястэчку Мікашэвічы Мазырскага павета Д.Агаркаў прадаваў драўляныя скрынкі (тару) у Маскве, Харкаве, Адэсе, Лондане і Парыжы. Дрэваапрацоўчы завод у вёсцы Васілевічы Рэчыцкага павета выпрабляў чаўнакі, бабіны, паганялкі для прадзільных і ткацкіх фабрык Расіі.

Завод сухой перагонкі драўніны ва ўрочышчы Выдрыца Аршанскага павета лічыўся адным з буйных хімічных прадпрыемстваў краіны. Ён выпускаў метылавы спірт, воцат, фармалін, драўняны вугаль, смалу, ацэтон і інш. Пашыраўся рынак збыту запалкавых прадпрыемстваў Беларусі. Гэта "Маланка" (Мазыр), "Вікторыя", "Бярэзіна" (Барысаў), "Прагрэс-Вулкан" (Пінск), "Везувій" (Гомель), "Дружына" (Койданава). Іх уладальнікі ўвайшлі ў агульнарасійскае манапалістычнае аб'яднанне і адвавалі для сябе выключнае права прадаваць сваю прадукцыю ў заходніх губернях. Узрастала вытворчасць папярова-кардонных фабрык, якія таксама выкарыстоўвалі драўніну. Буйнейшая з іх Добрушская (Гомельскі павет) мела збыт па ўсёй імперыі. Яе папера лічылася адной з лепшых у Расіі. Вялікая заслуга ў росквіце прадпрыемства належала кіраўніку Антону Стульгінскаму (1851--1915), ураджэнцу Беларусі. Ён вывучаў папяровую справу ў Пецярбургу, Германіі і Францыі, а з 1877 года ўзначаліў Добрушскую фабрыку. Пад яго кіраўніцтвам тут была праведзена реарганізацыя і мадэрнізацыя вытворчасці. З 1889 года пры фабрыцы пачала дзейнічаць першая ў Беларусі электрастанцыя. Па ініцыятыве Стульгінскага ўводзіцца 8-гадзінны рабочы

168

дзень -- упершыню ў Расіі. Таленавіты інжынер заснаваў Саюз папяровых фабрыкантаў імперыі і быў нязменным старшынёй яго.

**ВЫТВОРЧАСЦЬ БУДАЎНІЧЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ.** З прадпрыемстваў па апрацоўцы мінеральнай сыравіны славіліся бабруйскія цагельні, кафельныя заводы Копыся і Мінска. Вельмі шпарка павялічвалася вытворчасць шкла і вырабаў з яго (бутэлькі, іншы посуд, лямпавае шкло). На буйнейшым у Беларусі Нёманскім шклозаводзе (Лідскі павет) выраблялся прадметы роскашы з крышталю высокай мастацкай якасці. Не меншую вядомасць набыў шклозавод у вёсцы Старэва Бабруйскага павета, які ў 1908 годзе на міжнароднай выстаўцы ў Марселі атрымаў Гран-пры.

**ТЭКСТЫЛЬНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ.** Нейкім цудам, нягледзячы на канкурэнцыю маскоўскіх і лодзінскіх тавараў, захоўвалася тэкстыльная прамысловасць. У Слоніме і яго акрузе яна спецыялізавалася на вытворчасці грубага сукна, коўдраў і паўфабрыкатаў. Паспяхова працавала Парэцкая суконная фабрыка ў Пінскім павеце. Яе шарсцяныя тканіны і двайное сукно прадаваліся ў Маскве, Пецярбургу, Варшаве, Вільні, Кіеве, Адэсе, Беластоку, Мінску. Больш таго, на ўсходзе Беларусі ў пачатку XX стагоддзя з удзелам бельгійскіх і аўстрыйскіх капіталаў закладваліся новыя цэнтры тэкстыльнай вытворчасці: льнопрадзільная фабрыка "Дзвіна" ў Віцебску, Дняпроўская мануфактура баваўняных тканін у Дуброўні Аршанскага павета, Высачанская мануфактура льняной пражы ў тым жа павеце.

**АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ**

# ЗАСТУПНІК БАЦЬКАВАЙ СПАДЧЫНЫ

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 36,37.**

Пень адзін, людзей вакол яго -- з чортаў тузін, але ён учапіўся лапамі за зямлю і не паддаецца.

-- Вось гэта асілак! Добры арэх ім застаўся на закусь... Памятаеш, Кастусь, пра той дуб, пра які ты пісаў? Дай мне Бог памяці, -- Янка Маўр зморшчыў збаранаваны часам высокі лоб, гарэзлівая смяшынка запалілася ў ягоных вачах.

-- Ага, якраз на язык трапіла:

**...Дужы ты, дуб стары,**
**Сын вякоў сівых.**
**Многа бур ты знёс**
**На вяку сваім...**

Якуб Колас пільна зыркнуў на свата, хітраватая смяшынка засвяцілася ў прыжмураных вачах. Не мяняючы рытму верша, паказваючы рукою на пень, доўжыў глухім голасам:

**У зямлю ўвайшлі**
**Карані яго.**
**Гэты пень стаіць,**
**Не варушыцца.**

-- Нам стала ніякавата, адразу зразумелі, у чый агарод камень, -- прызнаваўся Даніла. -- Але Сымон, кемны ў гэтай справе, падказаў, як карчуюць пні мікалаеўцы. Падклаўшы жэрдку пад лапу карча і падклаўшы кругляк пад яе, мы гуртам наваліліся на падвагу, пень затрашчаў, кульнуўся на бок, толькі жоўты пясок пасыпаўся з каранёў.

Даніла доўга прыглядаўся да таго месца, дзе калісьці стаяла лавачка, на якой сядзелі сваты... Сорак гадоў праляцелі як адно імгненне. Здаецца, толькі праз хату прайшоў. Сівая восень пастукалася і ў яго вокны. Усё пройдзенае, мінулае ўспрымаецца не так ужо акрэслена, быццам у нейкім тумане, але ж асобныя штрыхі жыцця помняцца яскрава... Прыгадаліся курсы замежных моў, дзе вывучаў англійскую і нямецкую мовы ў неспакойны 1929 год, школа металістаў, куды не пусцілі, як "не пралетарскага паходжання". Пасля паступіў у чыгуначную школу N 25 імя Чарвякова, на базе якой утварылася хімпрафшкола. Трэба зрабіць агаворку: блізкі чалавек да сям'і Коласа Барыс Беркенгейм паўплываў сваімі цікавымі размовамі аб чараўніцы хіміі на будучую прафесію брата.

Даніла скончыў хімфак універсітэта, дзе пасля аспірантуры працаваў старшым выкладчыкам.

Вайна прыпыніла педагагічную дзейнасць здольнага навукоўца. Меншы брат Юрка пасля заканчэння геафака БДУ ў 1940 годзе служыў у арміі каля горада Ломжы, што на Беласточчыне. Праз год, менш чым за тыдзень да пачатку вайны, прыязджаў у Мінск на стралковыя спаборніцтвы. Тут заспела вайна, пачалася ліхаманкавая эвакуацыя. Яфрэйтар Юрка Міцкевіч не паехаў з сям'ёю ў бежанцы. Сярэдні сын Якуба Коласа, верны воінскай прысязе, пайшоў у ваенную камендатуру і, як зазначыў з сумам Даніла, "назаўсёды ад нас"... Пазней высветлілася: Юрка трапіў у іншы полк, бо вярнуцца назад у свой полк было ўжо немагчыма, немцы набліжаліся да Мінска. Не развітаўшыся з бацькамі, ён дайшоў да Смаленскай вобласці і дзесьці ў раёне Ярцава загінуў.

Якуб Колас са сваёй сям'ёю апынуўся ў спякотным Ташкенце. Там шмат даводзілася працаваць усім. Для маці клімат быў цяжкім, яна часта і падоўгу хварэла. Бацька займаўся грамадска-палітычнай, літаратурнай дзейнасцю. Шмат пісаў артыкулаў для часопісаў і газет, ездзіў у Маскву, Казань. Меншы брат Міхась вучыўся. Даніла працаваў у Акадэміі навук, якая дзейнічала ў Ташкенце.

У 1944 годзе старэйшы сын Якуба Коласа вяртаецца на Беларусь. Працуе ў Акадэміі навук вучоным сакратаром Інстытута хіміі, загадчыкам лабараторыі. Праз год гаротная і сумная вестка прыляцела з Масквы. Званіў бацька, прасіў тэрмінова прыехаць. У філіяле Крамлёўскай бальніцы памірала маці... Майскае сонца залівала вясенні цяплом палату, промні-зайчыкі бегалі па сценах, падлозе, а яна асмяжнымі вуснамі шаптала:

-- Сынок, падтрымай бацьку, беражы яго, шануй, слухай... Жывіце ўсе разам. Цяжка мне гаварыць... Міхася не пакідайце... Я ўжо не ўбачу Юрачку,.. ён кліча мяне... Данік, сы-нок, дай сва-ю ру-ку...

Даніла адчуў холад яе рукі, ён разліваўся па ўсім целе маці... Яна, памаладзеўшая, з нейкай няўлоўнай, спагадлівай усмешкай заснула вечным сном...



**Жнівень 1991 года. Мінск. Вайсковыя могілкі. Каля магілы Якуба Коласа сабраліся яго нашчадкі (злева направа): МІЦКЕВІЧ Міхась Канстанцінавіч (сын), МІЦКЕВІЧ Марыя Міхайлаўна (унучка), МІЦКЕВІЧ Андрэй Данілавіч (унук), МІЦКЕВІЧ Ірына Сцяпанаўна (жонка Андрэя), МІЦКЕВІЧ Вера Данілаўна (унучка), МІЦКЕВІЧ Аляўціна Цімафееўна (жонка Данілы), МІЦКЕВІЧ Даніла Канстанцінавіч (сын), Іна і Валянціна (праўнучкі).**

Нібы гэта было толькі што, адчуў Даніла апошні дотык матчынай рукі. Ён аглянуўся на бярозу. Сэрца забілася хутчэй. Сыну моцна захацелася зайсці ў музей, глянуць на родныя твары, пабыць сам-насам... Ён доўга ўглядаўся ў родныя і да болю блізкія рысы бацькі, маці... Як быццам па-новаму чытаў лісты, загалоўкі кніжак розных выданняў, вывучаў, здавалася, шматлікія здымкі бацькавых сяброў, настаўнікаў, дакранаўся да адзення, якое насіў паэт у розныя перыяды жыцця, прыглядаўся да самых высокіх узнагародаў, да дэпутацкіх пасведчанняў, да той невычэрпнай духоўнай спадчыны, якую папаўняе і аберагае ўдзячны сын вялікага песняра. У пакоі бацькі на другім паверсе ён прысеў за пісьмовы стол, глянуў на дату на календары. Асцярожна дакрануўся да ручкі, недапісанага ліста паперы, настольнага гадзінніка, які паказвае час, калі перастала біцца сэрца песняра. Нібы прыкаваны, сядзеў сын за рабочым сталом, дзе абарвалася жыццё паэта. Тут раней ён прымаў самых блізкіх сяброў, пісаў свае бессмяротныя творы. У вочы кінуўся бацькаў дзённік "На схіле дзён" і запіс: "Вечарам прыехаў Данік. Я вельмі рад, што ён вярнуўся. Удзень садзілі яблыні. Было холадна. Зямля падмерзла. Усяго не паспелі пасадзіць..."

"Жыў бы ты, тата, падзівіўся б на сад, які ўжо паспеў састарыцца, але яшчэ добра пладаносіць... Прайшоўся б па пакоях сваёй хаты... Не папракнуў бы сына за нядбайнасць, за непавагу да бацькі. Жывая памяць, твая муза жыве з намі. Я выконваю сынаў абавязак перад табою і людзьмі: удзячныя нашчадкі ўшанавалі тваю памяць... Калі табе было цяжка і ты адчуваў заход свайго сонца, мусіць, і нарадзіліся гэтыя радкі.

**Штодзень я адчуваю**
**ўсясільны той закон,**
**Што цягне к дому, гаю**
**у вечны цень-палон.**
**Мяне ў жывых не стане.**
**Сыду я ў небыццё,**
**Ды вечна будзе ранне,**
**І песні, і жыццё...**

Так, бацька, твая вясна заўжды будзе добрым напамінам, гаючым водарам нязгаснай духоўнасці, гонарам за сваю нацыю, любоўю да Бацькаўшчыны, да вечнай крыніцы Альбуць, адкуль ты чэрпаў сілы...

**Ды вечна будзе ранне,**
**І песні, і жыццё.**

Нібы клятву даваў сын бацьку ў свой дзень нараджэння. Ён глянуў на здымак 1955 года. Бадай што, апошні здымак бацькі і сына. Абое задуменныя, углядаюцца ўдалячынь. Цяжка было ўявіць, што праз месяц у гэтым кабінеце сын будзе ратаваць бацьку ад смерці... Стане заступнікам і захавальнікам бацькоўскай спадчыны.

З 1957 года Даніла Міцкевіч -- дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Мінску... Вось ужо 37 гадоў ён кожным ранкам ідзе на паклон да бацькі, ідзе да той крыніцы, адкуль бярэ сілы. У тыя маладыя гады энергіі хапала, а справа гэтая аказалася няпростай, нялёгкай. Многія не разумелі або не хацелі разумець, што вялікага дуба з малым карэннем не бывае.

Сын клапатліва і нават хваравіта ставіцца да духоўнай спадчыны бацькі. Не дай Божа, каб хтосьці хоць незнарок кінуў цень няпраўды на жыццёвы шлях паэта... Нікому не даруе вольнасці або додуму, што тычыцца Коласа. Яго часам называюць прыдзірлівым, занадта ўжо прынцыповым заступнікам. Даніла не крыўдзіцца, у нейкай ступені задаволены тым: ён можа адвесці розную лухту, даць дакладны, дакументальны доказ у абарону літаратурнай і грамадскай дзейнасці Якуба Коласа. Аднойчы ў гутарцы са мною, усміхаючыся, заўважыў:

-- Кожны праўду знае, ды не кожны яе любіць.

Трэба аддаць належнае брату: і сягоння памяць яго ўчэпістая і дакладная. Ажно не верыцца, што так многа можна трымаць у галаве. Уражанне такое, што кожную кнігу, кожны твор, выступленне на розных пасяджэннях, шматлікія сустрэчы песняра з людзьмі, яго меркаванні, выказванні -- усё гэта раскладзена ў яго "па паліцах". Ён не толькі заступнік, але шчыры, актыўны званар бацькавых песняў. Немагчыма палічыць, колькі разоў меў выступы на розных сустрэчах, юбілеях, на вечарынах, у школах, установах, калгасах, на заводах. Яго густы бас часта гучыць на хвалях радыё, па тэлебачанні... Друкуецца ён у газетах, часопісах. І кожны радок, кожнае слова -- пра паэта... Па сваёй сціпласці не прызнаецца пра самае запаветнае і дарагое: ён піша цікавую кніжку, рыхтуе слова пра бацьку...

І тут трэба сказаць пра тое штодзённае, здавалася б, незаўважнае, тыя клопаты, без якіх нельга дня пражыць, тую спрыяльную абстаноўку, духоўнае асяроддзе, тую магчымасць для вызначэння свайго "я", што патрабуюць эмацыянальнага ўзрушэння, нервовага напружання... Ва ўсім гэтым побач блізкі сябар, спадарожніца, дбайная і чуллівая гаспадыня, стваральніца радасці і згоды. Усё гэта -- рысы характару жонкі брата Аляўціны Цімафееўны Міцкевіч. Так, менавіта Міцкевіч, бо яна з дому таксама Міцкевічаў. Яе бацька жыў у Літве, займаў пасаду намесніка міністра, а брат Леў -- вядомы дойлід. Мая братава блізка да сэрца прымае праблемы мужа. Яе добра ведаюць і паважаюць пісьменнікі, навукоўцы, дзяржаўныя дзеячы і ўсе, хто цэніць Коласаву спадчыну. У Данілы ёсць сын Андрэй, дочкі Алёна, Вера. Яго любімая ўнучка Валянціна цешыць сэрца дзеда чароўнай музыкай і такая ж шчабятлівая, дапытлівая, прыветная і спагадлівая, як і бабуля Аляўціна.

Сёння спадчына Коласа, духоўны скарб пісьменніка стаў даступным мільёнам, дзякуючы патрыярху музейнай справы, які многа зрабіў, каб памяць аб бацьку жыла ў сэрцах людзей. Калі быць шчырым, Якуб Колас -- дар ад Бога чалавецтву на стагоддзі. Ён народны, таму што ніколі не цураўся сваёй Бацькаўшчыны. Моцнымі каранямі яго лёс пераплятаўся з лёсам яго народа. Іншай жыццёвай мэты, як служыць свайму краю, дзядзька Якуб не шукаў.

**Не пытайце, не прасіце**
**Светлых песень у мяне,**
**Бо, як песню заспяваю,**
**Жаль вам душу скалыхне...**

-- Гэтыя слова Коласа і сягоння сугучныя нашай пакутнай Бацькаўшчыне. Духоўнасць дзесьці ўпала на самае дно чалавечай душы, -- нібы сам з сабою разважаў Даніла. -- На першае месца чалавек вытыркае голы практыцызм дзеля ўласнай нажывы. Гэтага Колас ніколі не ўспрымаў...

Але ж хоць сягоння эканамічная разруха, заняпад культуры, людзі не цураюцца спадчыны паэта. У музеі падабралася творчая каманда супрацоўнікаў, няўрымслівых і шчырых прыхільнікаў Якуба Коласа... З дапамогай сына паэта яны шырока прапагандуюць і дамагаюцца, каб Колас песняю прарос у сэрцах мільёнаў яго нашчадкаў. На радзіме песняра працуюць філіялы музея ў Смольні, Альбуці, Акінчыцах. Коласаўскі запаведнік сёння -- культурны і літаратурны наш скарб. Ад Акінчыц да Мікалаеўшчыны коласаўскі шлях па-мастацку аздоблены драўлянымі скульптурамі герояў "Новай зямлі". Яны, як жывыя, паўстаюць яркімі вобразамі, што так маляўніча, проста і кранаюча апісаў мастак слова...

-- Ведаеш, Сымоне, я сапраўды нямала зрабіў для бацькоўскай спадчыны. Але не гэта мяне сягоння турбуе, -- Даніла ўзважваў словы. -- Я не хачу і не патрэбна тое рабіць, каб нейкім чынам ставіць на вагі Коласа і Купалу. Гэта непаважліва і непрыстойна з боку тых, хто ўсё шукае ржавыя гіры. З дзяцінства ў сэрцы маім яны абое годныя, самабытныя людзі... Падзяляю думку Івана Чыгрынава, які сказаў на 110-й гадавіне бацькі ў філармоніі: "Нельга выдзяляць волатаў літаратуры, аддаваць дань таму або другому. Якуб Колас і Янка Купала па-свойму самабытныя, абое яны -- гонар і душа народа".

* * *

Даніла, сын Якуба Коласа, неардынарная асоба. Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, старшы навуковы супрацоўнік музея Якуба Коласа. У сілу сваіх магчымасцей дапамагае парадай, клапоціцца аб тым, каб не было пустазелля на Коласавай ніве. Ён практычна дапамагае цяперашняму дырэктару музея спадарыні Зінаідзе Камароўскай вырашаць праблемы, якія ўзнікаюць сягоння. Даніла задаволены і працай дачкі Веры. Яна вырашыла доўжыць бацькаву работу, працуе ў музейным фондзе свайго дзеда...

Шамацяць мядзвяныя сосны, пярэсцяць кветкі на сонцы, стары сад у самоце гамоніць каля хаты. Гаспадар Даніла мерным крокам абходзіць сялібу. Сівая восень ужо даўно гукае ў шчодрым сэрцы вялікага заступніка вялікай спадчыны.

**Сымон БЕЛЫ.**

*АКЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ*

# УВАСКРАШАЮЧЫ МІНУЛАЕ — ДБАЕМ ПРА БУДУЧЫНЮ

(Пачатак на 1-й стар.).

**Дзе вытокі Бацькаўшчыны? Флагі, сімволіка? Не толькі. Веданне гісторыі свайго краю, яго традыцый, культуры адкрывае шлях да духоўнага адраджэння і ўзбагачэння народа, да ўзгадавання патрыятызму. Не на словах, а ўвачавідкі пераканаліся ў гэтым удзельнікі свята на зямлі Друцка.**

**Уявіце сабе карціну: сённяшні Друцк (цяпер амаль вёска) пераўтварыўся ў цэнтр княства Друцк, як і 902 гады назад. На высокіх узгорках, у мінулым абарончых валах, на конях, у кальчугах, іншых даспехах старых часоў сядзяць князь і яго воіны. Перабірае струны гусляр, на старабеларускай мове гучаць царкоўныя песні. Недзе на крутой звіліне вала стракоча пад рукамі бабулі-рукадзельніцы забыты калаўрот.**

**Але не толькі тэатралізаванаму відовішчу, цудоўна арганізаванаму рэжысёрам Н. Макарцовым, былі ўдзячныя мясцовыя жыхары і госці з сталіцы ды іншых мясцін Беларусі. Апладзіравалі яны артыстам мясцовых народных калектываў, якія ўваскрасілі забытыя песні, абрады. З асалодай слухалі выступленні фальклорных калектываў з Мінска -- "Ліцвінаў", "Валачобнікаў".**

**Кульмінацыйным момантам урачыстасці сталі выступленні вядомых пісьменнікаў і паэтаў, вучоных. І. Чыгрынаў, Н. Пашкевіч, Г. Пашкоў, У. Скарынкін, А. Пісьмянкоў, С. Лаўшук гаварылі аб гісторыі зямлі Друцка, любові да Айчыны, чыталі лепшыя свае творы.**

**Аднак свята ёсць свята. Як абысціся на ім без падарункаў? Вуліцы Друцка сустракалі гасцей гірляндамі, сплеценымі з галінак дрэў і кветак, гандлёвымі радамі, дзе без платы можна было адчуць сапраўдную беларускую гасціннасць. Мясцовыя гаспадыні ў маляўнічых нацыянальных касцюмах частавалі сваіх жыхароў і гасцей бульбай у чыгунках, акуратна нарэзанымі скрылікамі сала, разнастайнымі пячэннямі і саленнямі, свежым малаком з гліняных збаноў.**

**А супрацоўнікі і актывісты фонду культуры дарылі прысутным лістоўкі, у якіх вучоныя расказалі гісторыю горада, сувенірныя вымпелы -- памяць аб сустрэчы.**

**Упрыгожылі і ўзбагацілі падзею міні-выстаўкі. Размясціліся яны на крутых схілах валоў былога гарадзішча. Пра што расказалі, чым парадавалі? Адна мовай археалагічных знаходак расказала ўдзельнікам свята пра жыццё Друцка ў былыя часы. Старадаўнія грашовыя знакі, прадметы быту, жаночыя ўпрыгажэнні быццам прыадчынілі заслону гісторыі. На другой можна было пазнаёміцца з самабытнымі творамі мясцовых умельцаў -- ткачых, вышывальшчыц, рэзчыкаў па дрэву. Ну а на трэцяй — набыць вырабы прадпрыемстваў фонду культуры -- Бабруйскай галантарэйнай фабрыкі і Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.**

**Гэта незвычайная падзея адбылася дзякуючы руплівасці кіраўніцтва Беларускага фонду культуры, пры дапамозе намесніка старшыні Талачынскага райвыканкома М. Завадскага, загадчыка аддзела культуры М. Ярошава, старшыні калгаса "Праўда" Талачынскага раёна. Бескарыслівую матэрыяльную дапамогу для арганізацыі свята ў Друцку аказалі таксама банк "Беларусь" і Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі. Гэта дзякуючы ім уваскрэсла светлая памяць у душах людзей розных пакаленняў, з'явілася вера ў тое, што заўтрашні дзень, пабудаваны на добрых традыцыях, павінен быць лепшым. На фоне сённяшняй бездухоўнасці і грамадскай апатыі гэта была светлая падзея. Яна ўпрыгожыла наша жыццё і, можа, зрабіла нас дужэйшымі і розумам, і сэрцам.**

**Валянціна КУДРАЎЦАВА.**









**На здымках, зробленых нашым карэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ, адлюстраваны паасобныя моманты свята на зямлі друцкай, дзе перапляласся гісторыя і сучаснасць.**

ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

**16 верасня, пятніца**

## РАІСА КАШЭЛЬНІКАВА

Калі б Раіса Мікалаеўна Кашэльнікава сыграла на сцэне тэатра імя Янкі Купалы толькі адну Паўлінку ў выдатным секстэце са Ржэцкай, Пола, Глебавым, Платонавым і Дзядзюшкам, то і тады яе імя назаўсёды ўвайшло б у гісторыю беларускага тэатра.

Кашэльнікава была першай выканаўцай ролі Паўлінкі і ў БДТ-2 (пазней тэатр імя Якуба Коласа), на сцэне якога пачынаўся творчы шлях актрысы. У 1936 годзе на прэм'еры спектакля "Паўлінка" прысутнічаў сам Янка Купала. Ён рабіў свае заўвагі і дзяліўся ўражаннямі аб выканаўцах. Аб Кашэльнікавай аўтар п'есы сказаў: "Такой Паўлінкі яшчэ не было..." Патрабавальная актрыса знаходзілася пасля таго яшчэ шмат гадоў у няспынным пошуку. Яна шліфавала вобраз ад спектакля да спектакля, набліжаючы да Купалавай фальклорнай першаасновы. Вобраз Паўлінкі прывабны сваёй пяшчотай, гарэзлівасцю, непасрэднасцю і чысцінёй. Кашэльнікава сыграла дзяўчынку, для якой каханне непарыўна звязана з прагай светлага жыцця, асэнсаванага і поўнага. Яе Паўлінка, поўная рашучасці, так і гаворыць: "А няхай сабе будзе, што мае быць -- я свайго такі даб'юся або згіну, каб і следу не засталося".

З 1939 года творчасць Кашэльнікавай была непарыўна звязана з тэатрам імя Янкі Купалы.

Ёй належыць першая самабытная трактоўка многіх роляў класічнага і сучаснага рэпертуару на нацыянальнай сцэне. Перад вачамі праходзіць цэлая галерэя вобразаў -- Ларыса ў "Беспасажніцы", Глафіра ў "Ваўках і авечках", Любоў у "Апошніх", Аня ў "Сям'і", Аўгіння ў спектаклі "У пушчах Палесся", Броня ў п'есе "З народам", Уладзіслава Луцэвіч у "Шчасці паэта"... І славутая, неўміручая купалаўская Паўлінка -- каронная роля актрысы.

**Наталля САКАЛОЎСКАЯ.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

Адзінае несапсаванае, што засталося нам ад савецкага, -- савецкае шампанскае. Дык і таго няма. Ці то бутэлек нестае, ці то савецкага.

Адзнака дробязі: дробязь імкнецца быць буйною.

Адкуль бяруцца анекдоты пра нашы хібы і бядоты? Не з-за гары, не з-за пагорка, кпіць той, каму баліць і горка.

-- Ад мяне святло, -- казала цемра, -- я зоркі запальваю, а золак тушыць.

Адным, каб згарэць, хапае імгнення, іншым нестае жыцця.

-- Апладысменты, апладысменты, -- шаптаў суфлёр глядзельнай зале, але ніхто на яго не звяртаў увагі.

Аргументы тых, што "на чале": "Я не спецыяліст, але..."

А хто там ляжыць па ярах, па лагах з рэвальвернымі кулямі ў галавах? -- Беларусы. — А чаго ж, чаго ж хацелася ім, акрыялым душой ды сляпым і глухім? -- Людзьмі звацца!

Бачыў трывожны сон: пакуль я пляваў у столь, нехта мяне пераплюнуў.

Бегаюць цяпер па нашых скверах колі, таксы, спаніэлі, тай-тэр'еры. Кагадзе было яшчэ не так: людзі дзетак мелі, не сабак.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1340.
Падпісана да друку 19. 9.1994 г.